## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ ГРАМАДЗЯН, ПАЦЯРПЕЎШЫХ

Аварыя, якая адбылася 26 красавіка 1986 года на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, з'яўляецца самай буйной катастрофай сучаснасці. Яна закранула лёс мільёнаў людзей, якія пражываюць на велізарных тэрыторыях. Стварыліся новыя экалагічныя, сацыяльныя і эканамічныя ўмовы ў рэгіёнах радыеактыўнага забруджання.

Беларусь аб'яўлена зонай нацыянальнага экалагічнага бедства. Да гэтага часу немагчыма ацаніць увесь аб'ём і вынікі чарнобыльскай катастрофы. Прадухіленне неспрыяльнай сацыяльнай і экалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы патрабуе значных намаганняў, прыцягнення вялікіх фінансавых, матэрыяльных і навуковых рэсурсаў рэспублікі і краіны.

## РАЗДЗЕЛ 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1.** Гэты Закон накіраваны на абарону правоў і інтарэсаў грамадзян, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, былі адселены і выехалі на новае месца жыхарства з тэрыторыі радыеактыўнага забруджання, пражываюць на ўказанай тэрыторыі, і іншых катэгорый грамадзян, вызначаных гэтым Законам.

**Артыкул 2.** Грамадзяне, якія пражываюць (працуюць) на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, маюць права на атрыманне льгот і кампенсацый за ўрон, прычынены іх здароўю і маёмасці ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у парадку і на ўмовах, устаноўленых гэтым Законам і іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

Рэалізацыя правоў грамадзян, устаноўленых гэтым Законам, гарантуецца дзяржавай.

**Артыкул 3.** Умовы пражывання і працоўнай дзейнасці насельніцтва без абмежаванняў па радыяцыйнаму фактару на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі вызначаны саюзнай канцэпцыяй пражывання насельніцтва ў раёнах, пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, адобранай 6 снежня 1990 года Каардынацыйным саветам па навуковых праблемах, звязаных з экалагічнымі вынікамі выкарыстання новых тэхналагічных сістэм пры Прэзідыуме Акадэміі навук СССР, і рэспубліканскай канцэпцыяй, адобранай 19 снежня 1990 года Бюро Прэзідыума Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

Асноўным паказчыкам ацэнкі тэрыторый, дзе ўмовы пражывання і працоўная дзейнасць насельніцтва не патрабуюць якіх-небудзь абмежаванняў, устаноўлена эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання насельніцтва, што пражывае на іх, якая не павінна перавышаць 1 мЗв (0,1 бэр) у год. Пры перавышэнні эфектыўнай эквівалентнай дозы апраменьвання 1 мЗв (0,1 бэр) у год над узроўнем натуральнага і тэхнагеннага радыяцыйнага фону праводзяцца ахоўныя мерапрыемствы, у тым ліку і адсяленне, чарговасць і этапы якога ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай камісіяй Беларусі па радыяцыйнай абароне пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 4.** Тэрыторыі радыеактыўнага забруджання ў залежнасці ад шчыльнасці забруджання глеб радыенуклідамі і ступені ўздзеяння радыяцыі на чалавека адносяцца да наступных зон:

1) зона эвакуацыі (адчужэння);
2) зона першачарговага адсялення;
3) зона далейшага адсялення;
4) зона з правам на адсяленне;
5) зона пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем.

Указаныя зоны вызначаюцца згодна з патрабаваннямі, замацаванымі ў Законе Рэспублікі Беларусь «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

**Артыкул 5.** Аднясенне тэрыторый да зон радыеактыўнага забруджання і ўстанаўленне іх граніц ажыццяўляюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на падставе даных аб шчыльнасці забруджання глеб радыенуклідамі, зацверджаных Галоўным упраўленнем па гідраметэаралогіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, даных радыялагічных даследаванняў асноўных харчовых прадуктаў і гадавых эфектыўных эквівалентных доз апраменьвання, зацверджаных Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь. Межы ўказаных зон пераглядаюцца не радзей аднаго разу ў тры гады Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Тэрыторыі, на якіх сярэднегадавая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання чалавека можа складаці ад 1 мЗв (0,1 бэр) да 5 мЗв (0,5 бэр), адносяцца да зоны далейшага адсялення або да зоны з правам на адсяленне па крытэрыю шчыльнасці забруджання глеб радыенуклідамі. Грамадзяне, якія пражываюць на гэтых тэрыторыях, а таксама якія прынялі рашэнне аб пераездзе на іншае месца жыхарства, маюць права на атрыманне кампенсацый і льгот устаноўленых гэтым Законам для дадзеных зон.

Дадатковыя крытэрыі па вызначэнню межаў зоны ў залежнасці ад забруджанасці яе тэрыторыі іншымі радыенуклідамі могуць устанаўлівацца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6.** Уезд у зону першачарговага адсялення і зону далейшага адсялення для пражывання без дазволу органаў аховы здароўя і мясцовых Саветаў народных дэпутатаў забараняецца.

**Артыкул 7.** Рээвакуацыя насельніцтва праводзіцца выключна ў добраахвотным парадку пасля зніжэння радыеактыўнага забруджання да ўзроўню, які забяспечвае ўмовы жыцця без абмежаванняў. Рашэнне аб рээвакуацыі насельніцтва прымаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па заключэнню Нацыянальнай камісіі Беларусі па радыяцыйнай абароне пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8.** Прадукты харчавання, у якіх утрыманне радыенуклідаў не перавышае норм, устаноўленых Нацыянальнай камісіяй Беларусі па радыяцыйнай абароне пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, а таксама міжнародных норм, прызнаюцца прыгоднымі да рэалізацыі і спажывання (у далейшым называюцца «чыстыя прадукты харчавання»).

**Артыкул 9.** Прадукты харчавання і сыравіна для іх, выробленыя на тэрыторыях радыеактыўнага забруджання, павінны мець сертыфікат (маркіроўку) з указаннем месца іх вытворчасці, утрымання радыенуклідаў.

**Артыкул 10.** Забараняецца вытворчасць і рэалізацыя любых відаў прадукцыі, утрыманне радыенуклідаў у якой перавышае нормы, устаноўленыя Нацыянальнай камісіяй Беларусі па радыяцыйнай абароне пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, і міжнародныя нормы.

Забруджаная радыенуклідамі прадукцыя, якая паступіла на прадпрыемствы або для рэалізацыі ў гандлёвую сетку, падлягае адабранню і захаванню ў магільніках ва ўстаноўленым парадку.

**Артыкул 11.** Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права на атрыманне поўнай, своечасовай і дакладнай інфармацыі аб узроўнях забруджання тэрыторыі радыеактыўнымі рэчывамі, аб ступені забруджанасці радыенуклідамі прадуктаў харчавання і іншых тавараў народнага спажывання, аб патрабаваннях рэжыму радыяцыйнай бяспекі.

## РАЗДЗЕЛ II. СТАТУС ГРАМАДЗЯН, ПАЦЯРПЕЎШЫХ АД КАТАСТРОФЫ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС

**Артыкул 12.** Да грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, на якіх распаўсюджваецца дзеянне гэтага Закона, адносяцца як удзельнікі ліквідацыі вынікаў дадзенай катастрофы, так і насельніцтва, якое пацярпела ад яе.

**Артыкул 13.** Удзельнікамі ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС з'яўляюцца грамадзяне:

1) якія прымалі ў 1986—1987 гадах удзел у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у межах зоны эвакуацыі або занятыя ў гэты перыяд на эксплуатацыі ці іншых работах на ўказанай станцыі (у тым ліку часова накіраваныя або камандзіраваныя), уключаючы ваеннаслужачых і ваеннаабавязаных, прызваных на спецыяльныя зборы і прыцягнутых да выканання работ, звязаных з ліквідацыяй вынікаў дадзенай катастрофы;

2) якія прымалі ў 1988—1989 гадах удзел у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у межах зоны эвакуацыі (адчужэння) або занятыя ў гэты перыяд на эксплуатацыі або іншых работах на ўказанай станцыі (у тым ліку часова накіраваныя або камандзіраваныя), уключаючы ваеннаслужачых і ваеннаабавязаных, прызваных на спецыяльныя зборы і прыцягнутых да выканання работ, звязаных з ліквідацыяй вынікаў дадзенай катастрофы.

3) якія прымалі ў 1986—1987 гадах удзел у работах па дэзактывацыі, будаўніцтву, па жыццезабеспячэнню насельніцтва ў зонах першачарговага адсялення і далейшага адсялення, уключаючы ваеннаслужачых і ваеннаабавязаных, прызваных на спецыяльныя зборы і прыцягнутых да выканання гэтых работ.

Да ваеннаслужачых і ваеннаабавязаных, указаных у пунктах 1—3 гэтага артыкула, адносяцца асобы афіцэрскага саставу, прапаршчыкі, мічманы, ваеннаслужачыя звыштэрміновай службы, сяржанцкі і радавы састаў, які знаходзіцца на абавязковай тэрміновай ваеннай службе ва Узброеных Сілах СССР, войсках Камітэта дзяржаўнай бяспекі, унутраных войсках, чыгуначных войсках і іншых воінскіх фарміраваннях, а таксама асобы начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

**Артыкул 14.** Да насельніцтва, пацярпеўшага ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, адносяцца грамадзяне, уключаючы дзяцей, якія знаходзіліся ва ўнутрычэраўным стане, якія пражываюць (пражывалі) або працуюць (працавалі) на тэрыторыях радыеактыўнага забруджання, у тым ліку асобы, указаныя ў частцы другой артыкула 13 гэтага Закона, а таксама дзеці і падлеткі, якія знаходзіліся ў перыяд з 26 красавіка па 31 мая 1986 года на дадзеных тэрыторыях пры выяўленні ў іх захворванняў крывятворных органаў (вострыя лейкозы), шчытападобнай залозы (адэнома, рак) і злаякасных пухлін, калі яны не аднесены да іншых катэгорый, вызначаных гэтым Законам.

**Артыкул 15.** Да грамадзян, на якіх распаўсюджваецца дзеянне гэтага Закона, адносяцца:

1) удзельнікі ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і асобы, указаныя ў артыкуле 14 гэтага Закона, якія сталі інвалідамі ў выніку гэтай катастрофы;
2) удзельнікі ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, вызначаныя артыкулам 13 гэтага Закона;
3) эвакуіраваныя з зоны эвакуацыі, а таксама якія самастойна пакінулі гэту зону пасля катастрофы;
4) якія пражываюць або працуюць у зоне першачарговага адсялення, а таксама адселеныя або тыя, хто самастойна выехаў з гэтай зоны пасля катастрофы;
5) якія пражываюць або працуюць у зоне далейшага адсялення, а таксама адселеныя або тыя, хто самастойна выехаў з гэтай зоны пасля катастрофы;
6) якія пражываюць або працуюць у зоне з правам на адсяленне;
7) якія пражываюць або працуюць у зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем;
8) дзеці, бацькі якіх (або адзін з іх) адносяцца (адносіцца) да катэгорыі асоб, указаных у пунктах 1—6 гэтага артыкула;
9) дзеці і падлеткі, якія знаходзіліся ў перыяд з 26 красавіка па 31 мая 1986 года на тэрыторыях радыеактыўнага забруджання (уключаючы дзяцей, якія знаходзіліся ва ўнутрычэраўным стане) пры выяўленні ў іх захворванняў крывятворных органаў (вострыя лейкозы), шчытападобнай залозы (адэнома, рак) і злаякасных пухлін.

**Артыкул 16.** Дзеянне гэтага Закона распаўсюджваецца таксама на грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія ўдзельнічалі ў ліквідацыі або пацярпелі ад аварый і іх вынікаў на іншых атамных аб'ектах грамадзянскага або ваеннага прызначэння, а таксама пацярпеўшых ад гэтых аварый або ў выніку выпрабаванняў, вучэнняў і іншых работ, звязаных з любымі відамі ядзерных установак, уключаючы ядзерную зброю, што пацвярджаецца адпаведнымі дакументамі ведамстваў, у распараджэнні якіх знаходзяцца ўказаныя аб'екты.

**Артыкул 17.** Звароты па пытаннях аб аднясенні асобных грамадзян да той або іншай катэгорыі пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС вырашаюцца Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

У такім жа парадку вырашаюцца пытанні аднясення да той або іншай катэгорыі асоб, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, указаных у пунктах 8 і 9 артыкула 15 і ў артыкуле 16.

## РАЗДЗЕЛ III. ІЛЬГОТЫ ЎДЗЕЛЬНІКАМ ЛІКВІДАЦЫІ ВЫНІКАЎ КАТАСТРОФЫ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС І ПРЫРАЎНАВАНЫМ ДА ІХ АСОБАМ

**Артыкул 18.** Грамадзяне, якія захварэлі і перанеслі прамянёвую хваробу, выкліканую вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, а таксама інваліды, у адносінах да якіх устаноўлена прычынная сувязь наступіўшай інваліднасці з чарнобыльскай катастрофай, з ліку асоб, указаных у артыкулах 13—16 і 21 гэтага Закона, маюць права на:

1) бясплатнае атрыманне лякарстваў па рэцэптах урачоў;

бясплатны выраб і рамонт зубных пратэзаў (за выключэннем пратэзаў з каштоўных металаў);

штогадовае бясплатнае забеспячэнне санаторна-курортным лячэннем або атрыманне грашовай кампенсацыі ў памеры сярэдняга кошту пуцёўкі;

бясплатны праезд на транспарце (акрамя таксі) ад месца жыхарства да месца лячэння, дыспансернага, амбулаторнага або клінічнага абследавання і назад;

2) карыстанне пры выхадзе на пенсію або перамене месца работы медыцынскімі ўстановамі, да якіх яны былі замацаваны ў перыяд работы;

3) кампенсацыю органамі сацыяльнага забеспячэння расходаў, звязаных з абслугоўваннем хворага, які па медыцынскаму заключэнню мае патрэбу ў доглядзе дома пабочнымі асобамі, пры адсутнасці сваякоў, што пражываюць з ім;

4) выплату дапамогі па часовай непрацаздольнасці ў памеры 100 працэнтаў заработнай платы незалежна ад бесперапыннага працоўнага стажу;

5) выплату працуючым інвалідам дапамогі па часовай непрацаздольнасці да 4 месяцаў запар або 5 месяцаў у каляндарным годзе;

6) забеспячэнне прадуктамі харчавання па медыцынскіх нормах;

7) уладкаванне без чаргі ва ўстановы сацыяльнага забеспячэння;

8) пазачарговае абслугоўванне ў лячэбна-прафілактычных установах і аптэках;

9) атрыманне бальнічнага лістка працуючым на ўвесь перыяд лячэння ў санаторыях і спецыялізаваных лячэбных установах з улікам часу праезду туды і назад, з выплатай дапамогі па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню незалежна ад таго, кім набыта і за чый кошт выкуплена пуцёўка;

10) пазачарговае забеспячэнне дзяцей месцамі ў дзіцячых дашкольных установах, незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці, спецыялізаваных дзіцячых установах лячэбнага і санаторнага тыпу, піянерскіх і іншых аздараўленчых лагерах;

11) бясплатнае ўтрыманне дзяцей у дзіцячых дашкольных установах (для не забяспечаных месцамі выплачваецца кампенсацыя кошту харчавання), піянерскіх лагерах і ўстановах санаторнага тыпу;

12) выкарыстанне штогадовага водпуску ў зручны для іх час, а таксама атрыманне штогадовага дадатковага водпуску працягласцю 14 каляндарных дзён з захаваннем заработнай платы;

13) пераважнае пакіданне на рабоце пры скарачэнні штату або колькасці работнікаў і працаўладкаванне пры рэарганізацыі або ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі. Пры адсутнасці ўмоў для прадаўжэння працоўнай дзейнасці гэтых асоб на тым жа прадпрыемстве, ва ўстанове, арганізацыі адміністрацыя абавязана аказаць ім дапамогу ў працоўным уладкаванні на іншае прадпрыемства, ва ўстанову, арганізацыю;

14) пазачарговае забеспячэнне жылой плошчай (па асобнаму спісу) тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў на працягу года, а таксама на дадатковую жылую плошчу ў выглядзе асобнага пакою;

15) аплату жылой плошчы (у межах норм, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам), займаемай гэтымі грамадзянамі і членамі іх сем'яў, якія пражываюць сумесна з імі, а таксама сем'ямі, што атрымліваюць пенсіі з выпадку страты карміцеля ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у памеры 50 працэнтаў кватэрнай платы, вылічанай па стаўках, устаноўленых для рабочых і служачых. Указаным грамадзянам, а таксама сем'ям, якія атрымліваюць пенсіі з выпадку страты карміцеля ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, прадастаўляецца скідка ў памеры 50 працэнтаў з устаноўленай платы за карыстанне ацяпленнем, водаправодам, газам і электраэнергіяй, а тым, хто пражывае ў дамах, што не маюць цэнтральнага ацяплення, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка з кошту паліва, набываемага ў межах норм, устаноўленых для продажу насельніцтву;

16) перадачу бязвыплатна ў прыватную ўласнасць займаемых імі кватэр у дамах дзяржаўнага жыллёвага фонду;

17) першачарговае прадастаўленне зямельнага ўчастка і набыццё матэрыялаў для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва;

18) першачарговае ўступленне ў жыллёвыя або жыллёва-будаўнічыя кааператывы, кааператывы па будаўніцтву і эксплуатацыі калектыўных гаражоў-стаянак для транспартных сродкаў і іх тэхнічнага абслугоўвання, садаводчыя таварыствы;

першачарговае набыццё садовых домікаў або матэрыялаў для іх будаўніцтва, прамысловых тавараў павышанага попыту, у тым ліку легкавых аўтамабіляў, матацыклаў і маторных лодак;

першачарговае абслугоўванне на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях сувязі, службы быту, грамадскага харчавання, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, тэхнічнага абслугоўвання і рамонту транспартных сродкаў і міжгародняга транспарту;

19) атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на набыццё або будаўніцтва садовых домікаў і на добраўпарадкаванне садовых участкаў. Кампенсацыя банкам страт ад прадастаўлення ўказаных у гэтым пункце пазык ажыццяўляецца за кошт сродкаў бюджэту;

20) атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва або набыццё індывідуальных жылых дамоў з надворнымі пабудовамі, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва з пагашэннем 50 працэнтаў памеру пазыкі за кошт бюджэту. Пагашэнне пазыкі ажыццяўляецца на працягу 25 гадоў пачынаючы з трэцяга года пасля яе атрымання. Кампенсацыя банкам страт ад прадастаўлення ўказаных у гэтым пункце пазык ажыццяўляецца за кошт сродкаў бюджэту;

21) першачарговае бясплатнае выдзяленне аўтамабіля тыпу ЗАЗ-968 пры наяўнасці адпаведных медыцынскіх паказчыкаў. Па жаданню інваліда яму можа быць без чаргі прададзены аўтамабіль іншай маркі, за вылікам кошту тыпу аўтамабіля, які яму павінен належаць;

22) бясплатны праезд на гарадскім грамадскім транспарце (акрамя таксі), чыгуначным, аўтамабільным і водным транспарце прыгарадных зносін;

бясплатны праезд адзін раз у год у любы пункт краіны і назад на чыгуначным транспарце, а ў раёнах, якія не маюць чыгуначных зносін, — на водным, паветраным або аўтамабільным міжгароднім транспарце;

23) пазачарговую ўстаноўку тэлефона;

24) вызваленне ад выплаты падаходнага падатку, падатку на халасцякоў, адзінокіх і маласямейных грамадзян. Ад падатку на маласямейных грамадзян таксама вызваляюцца жонка (муж) пацярпеўшага (пацярпеўшай) ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

25) паступленне па-за конкурсам у вышэйшыя, сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы і на курсы для прафесіянальнага навучання з прадастаўленнем ва ўсіх выпадках інтэрната на час вучобы. Асобы, якія закончылі навучальныя ўстановы на выдатна (з выдатнымі адзнакамі), прымаюцца ў далейшым у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы без экзаменаў па выніках гутаркі.

Прыём на падрыхтоўчыя аддзяленні пры адпаведных вышэйшых навучальных установах праводзіцца незалежна ад наяўнасці месцаў з абавязковым прадастаўленнем інтэрната.

Стыпендыі ўказаным асобам устанаўліваюцца ў павялічаным на 50 працэнтаў памеры;

26) атрыманне беспрацэнтнай пазыкі да 50 тыс. рублёў для арганізацыі асабістай падсобнай або фермерскай гаспадаркі. Кампенсацыя банкам страт ад прадастаўлення ўказанай пазыкі ажыццяўляецца за кошт бюджэту.

Устанаўленне прычыннай сувязі інваліднасці з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС ажыццяўляецца міжведамаснымі экспертнымі саветамі і ваенна-ўрачэбнымі камісіямі. Прычынная сувязь частковай або поўнай страты працаздольнасці пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы грамадзян прызнаецца ўстаноўленай, калі ўказанымі саветамі і камісіямі не пацверджана адсутнасць такой сувязі. Пры ўстанаўленні ўрачэбна-працоўнымі экспертнымі камісіямі (УПЭК) інваліднасці ў выніку захворвання ў адносінах да асоб, указаных у пункце 1 часткі першай артыкула 13 гэтага Закона, а таксама эвакуіраваных з зоны эвакуацыі (адчужэння), яна прызнаецца звязанай з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС без агляду гэтых асоб міжведамаснымі экспертнымі саветамі або ваенна-ўрачэбнымі камісіямі. У тым жа парадку ўстанаўліваецца прычынная сувязь надышоўшай смерці з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС.

Інвалідам, указаным у частцы першай гэтага артыкула, выплачваецца аднаразовая кампенсацыя за ўрон здароўю ў наступных памерах: I групы — 10 тыс. рублёў; II групы — 7 тыс. рублёў; III групы — 5 тыс. рублёў. Ім таксама штогод выплачваецца аднаразовая матэрыяльная дапамога на аздараўленне ў наступных памерах: інвалідам I і II груп — трохкратнай сумы мінімальнай заработнай платы; інвалідам III групы — двухкратнай сумы мінімальнай заработнай платы.

У выпадку смерці асобы, указанай у частцы першай гэтага артыкула, членам яе сям'і або асобам, якія ўзялі на сябе расходы па правядзенню пахавання, выплачваецца дапамога на пахаванне ў памеры сямікратнай мінімальнай заработнай платы.

Ільготы, прадугледжаныя пунктамі 7, 10, 14—20 і 23 часткі першай гэтага артыкула, распаўсюджваюцца на сем'і загінуўшых або памёршых, на якіх распаўсюджваліся льготы, указаныя ў гэтым артыкуле.

Сем'ям, страціўшым карміцеля ў выніку чарнобыльскай катастрофы, выплачваецца аднаразовая кампенсацыя ў памеры 10 тыс. рублёў, бацькам загінуўшага — 5 тыс. рублёў. Дзецям, страціўшым карміцеля, выплачваецца штогод аднаразовая матэрыяльная дапамога ў памеры мінімальнай заработнай платы. Разам з гэтым кожнаму непрацаздольнаму члену сям'і, які знаходзіўся на ўтрыманні карміцеля (дзецям — незалежна ад факта знаходжання на ўтрыманні), выплачваецца штомесячная кампенсацыя з выпадку страты ў выніку чарнобыльскай катастрофы карміцеля — удзельніка ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у памеры 50 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту незалежна ад пенсіі, якая ўстаноўлена для гэтых асоб гэтым Законам.

Кампенсацыі за ўрон здароўю асобам, пацярпеўшым у выніку чарнобыльскай катастрофы, і сем'ям за страту карміцеля ў выніку гэтай катастрофы выплачваюцца незалежна ад іншых відаў даходаў.

**Артыкул 19.** Асобы, указаныя ў пункце 1 часткі першай артыкула 13 гэтага Закона, якія прымалі ў 1986—1987 гадах удзел у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, маюць права на:

1) бясплатнае атрыманне лякарстваў па рэцэптах урачоў;

2) першачарговае штогадовае забеспячэнне па месцы работы бясплатнымі пуцёўкамі для аздараўлення ў санаторыях і дамах адпачынку пры наяўнасці медыцынскіх паказанняў, а ў выпадку немагчымасці прадастаўлення пуцёўкі — на атрыманне грашовай кампенсацыі ў памеры яе сярэдняга кошту;

3) пазачарговае забеспячэнне дзяцей месцамі ў дзіцячых дашкольных установах, спецыялізаваных дзіцячых установах лячэбнага і санаторнага тыпу, піянерскіх лагерах і іншых аздараўленчых установах незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці;

4) першачарговае забеспячэнне жылой плошчай тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў;

5) атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва або набыццё індывідуальных жылых дамоў, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва з пагашэннем 25 працэнтаў памеру пазыкі за кошт бюджэту. Пагашэнне пазыкі ажыццяўляецца на працягу 25 гадоў пачынаючы з трэцяга года пасля яе атрымання. Кампенсацыя банкам страт ад прадастаўлення ўказаных у гэтым пункце пазык ажыццяўляецца за кошт сродкаў бюджэту;

6) вызваленне ад выплаты падатку на халасцякоў, адзінокіх і маласямейных грамадзян. Ад падатку на маласямейных грамадзян таксама вызваляецца жонка (муж) пацярпеўшага (пацярпеўшай) ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

7) вызваленне ад выплаты падаходнага падатку;

8) бясплатны праезд на гарадскім грамадскім транспарце (акрамя таксі), чыгуначным, аўтамабільным і водным транспарце прыгарадных зносін;

9) прадастаўленне 50-працэнтнай скідкі з кошту праезду адзін раз у год у любы пункт краіны і назад на чыгуначным транспарце, а ў раёнах, якія не маюць чыгуначных зносін, — на водным, паветраным або аўтамабільным міжгароднім транспарце;

10) першачарговую ўстаноўку тэлефона;

11) пераважнае (пры іншых роўных умовах) паступленне ў вышэйшыя, сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы і на курсы для прафесіянальнага навучання з прадастаўленнем ва ўсіх выпадках інтэрната на час вучобы. Прыём на падрыхтоўчыя аддзяленні пры адпаведных вышэйшых навучальных установах праводзіцца незалежна ад наяўнасці месцаў з абавязковым прадастаўленнем інтэрната.

Стыпендыі ўказаным асобам устанаўліваюцца ў павялічаным на 50 працэнтаў памеры;

12) выплату пры пераводзе ў адпаведнасці з медыцынскім заключэннем на ніжэйаплачваемую работу розніцы паміж ранейшым заработкам і заработкам на новай рабоце. Гэта розніца выплачваецца да аднаўлення працаздольнасці або ўстанаўлення інваліднасці;

13) бясплатны выраб і рамонт зубных пратэзаў (за выключэннем пратэзаў з каштоўных металаў);

14) штогадовую аднаразовую матэрыяльную дапамогу на аздараўленне ў памеры трохкратнай сумы мінімальнай заработнай платы;

15) пакрыццё ўрону, прычыненага ў выніку захворвання або калецтва, якія ўзніклі ў сувязі з выкананнем работ па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, прывялі да стойкай страты працаздольнасці (без устанаўлення інваліднасці), што вызначаецца ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам для выпадкаў пакрыцця ўрону, прычыненага рабочым і служачым пры выкананні імі сваіх працоўных абавязкаў.

На грамадзян, указаных у дадзеным артыкуле, распаўсюджваюцца льготы, прадугледжаныя пунктамі 2, 4, 6—8, 12, 13, 15—19 часткі першай артыкула 18 гэтага Закона.

Кампенсацыі і льготы, прадугледжаныя пунктамі 15, 16 і 23 часткі першай артыкула 18 і пунктам 4 часткі першай гэтага артыкула, распаўсюджваюцца на сем'і памёршых удзельнікаў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Сем'ям, страціўшым у выніку чарнобыльскай катастрофы карміцеля — удзельніка ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, выплачваюцца кампенсацыі, прадугледжаныя часткай шостай артыкула 18 гэтага Закона.

**Артыкул 20.** Асобы, указаныя ў пунктах 2 і 3 часткі першай артыкула 13 гэтага Закона, маюць права на:

1) першачарговае забеспячэнне пуцёўкамі для санаторна-курортнага лячэння і адпачынку;

2) выкарыстанне чарговага штогадовага водпуску ў зручны для іх час;

3) першачарговае ўступленне ў жыллёвыя або жыллёва-будаўнічыя кааператывы (у горадзе Мінску і абласных цэнтрах — пры наяўнасці прапіскі), у гаражна-будаўнічыя кааператывы і садаводчыя таварыствы.

4) атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва або набыццё індывідуальных жылых дамоў, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва. Пагашэнне пазыкі ажыццяўляецца на працягу 25 гадоў пачынаючы з трэцяга года пасля яе атрымання. Кампенсацыя банкам страт ад прадастаўлення ўказаных у гэтым пункце пазык ажыццяўляецца за кошт сродкаў бюджэту.

На грамадзян, указаных у дадзеным артыкуле, распаўсюджваюцца льготы, прадугледжаныя пунктамі 2, 4, 6—8, 13, 17 і 19 часткі першай артыкула 18 і пунктамі 3, 8, 11 і 12 часткі першай і часткай чацвёртай артыкула 19 гэтага Закона.

Асобам, указаным у пункце 2 часткі першай артыкула 13 гэтага Закона, прымаўшым удзел у ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1988 годзе, і асобам, указаным у пункце 3 часткі першай артыкула 13, прымаўшым удзел у работах у зоне першачарговага адсялення ў 1986 годзе, штогод выплачваецца аднаразовая матэрыяльная дапамога на аздараўленне ў памеры двухкратнай сумы мінімальнай заработнай платы.

Асобам, указаным у пункце 2 часткі першай артыкула 13 гэтага Закона, прымаўшым удзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у 1989 годзе, штогод выплачваецца аднаразовая матэрыяльная дапамога на аздараўленне ў памеры мінімальнай заработнай платы.

**Артыкул 21.** Асобы, якія працуюць у зоне эвакуацыі (у тым ліку часова накіраваныя або камандзіраваныя), маюць права на:

1) 36-гадзінны рабочы тыдзень;

2) штогадовы аплачваемы водпуск у парадку, устаноўленым пунктам 12 часткі першай артыкула 23, за фактычна адпрацаваныя каляндарныя дні;

3) сутачныя ў павышаных памерах для часова накіраваных або камандзіраваных;

4) захаванне на працягу аднаго года сярэдняй заработнай платы пры пераводзе па медыцынскіх паказаннях з зоны эвакуацыі і на ніжэйаплачваемую работу або накіраванні на навучанне іншым прафесіям;

5) бясплатнае трохразовае гарачае харчаванне з разліку 7 руб. 12 кап. у суткі (з улікам індэкса цэн за перыяд з 1 кастрычніка 1991 года).

Канкрэтныя ўмовы рэжыму працы і адпачынку, аплаты працы і памеры матэрыяльных і сацыяльных ільгот у зоне эвакуацыі ўстанаўліваюцца ўрадам Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ IV. ІЛЬГОТЫ НАСЕЛЬНІЦТВУ, ЯКОЕ ПАЦЯРПЕЛА АД КАТАСТРОФЫ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС

**Артыкул 22.** Грамадзяне, эвакуіраваныя і адселеныя з зон эвакуацыі (адчужэння), першачарговага адсялення і далейшага адсялення, а таксама самастойна пакінуўшыя гэтыя зоны пасля аварыі (уключаючы дзяцей, што знаходзіліся ва ўнутрычэраўным стане), маюць права на:

1) скасаванне пры перасяленні працоўнага дагавора без захавання прадугледжаных дзеючым заканадаўствам тэрмінаў папярэджання адміністрацыі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый;

2) першачарговае працаўладкаванне выканаўчымі камітэтамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі на новым месцы жыхарства з улікам прафесіі і кваліфікацыі асобы, якая перасяляецца. Пры адсутнасці магчымасці такога працаўладкавання ім забяспечваецца прадастаўленне іншай работы з улікам іх жадання і грамадскіх патрэбнасцей або магчымасць навучання новым прафесіям (спецыяльнасцям) з захаваннем ва ўстаноўленым парадку заработнай платы на перыяд навучання і права на атрыманне ўзнагароджання за выслугу гадоў;

3) захаванне на перыяд працаўладкавання (на падставе даведкі раённага, гарадскога цэнтра занятасці, у які яны звярнуліся ў двухтыднёвы тэрмін пасля звальнення), але не больш чым на чатыры месяцы, сярэдняй заработнай платы і бесперапыннага працоўнага стажу;

4) грашовую кампенсацыю за страчаную ў сувязі з перасяленнем маёмасць або атрыманне ва ўласнасць іншай раўнацэннай маёмасці.

Кампенсацыя ўключае ў сябе:

а) кошт будынкаў (жылыя дамы, садовыя домікі, дачы, гаражы, гаспадарчыя пабудовы), які выплачваецца ў поўным памеры па ацэнцы, вызначаемай страхавымі дакументамі, а пры нязгодзе ўладальніка — па ацэнцы бюро тэхнічнай інвентарызацыі выканаўчых камітэтаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў;

б) кошт дамашняй маёмасці, якая па ступені радыеактыўнага забруджання не можа быць перавезена на новае месца жыхарства, зыходзячы з яе фактычнага кошту, вызначаемага камісіямі адпаведных мясцовых Саветаў народных дэпутатаў з улікам зносу;

в) кошт застрахаванай сельскагаспадарчай жывёлы, што падлягае вымушанаму забою, які кампенсуецца ў поўным памеры па ацэнцы, вызначаемай страхавымі дакументамі;

г) кошт пладова-ягадных насаджэнняў, пасеваў і незастрахаванай сельскагаспадарчай жывёлы па расцэнках, зацверджаных Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

д) затраты па асваенню тэрыторыі садаводчага таварыства і зямельнага ўчастка, якія вызначаюцца ў парадку і на ўмовах, устаноўленых Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

е) паенакапленне ў жыллёва-будаўнічых (жыллёвых) кааператывах;

5) кампенсацыя расходаў, звязаных з пераездам, якія ўключаюць у сябе:

а) выплату аднаразовай дапамогі ў памеры месячнага службовага акладу (тарыфнай стаўкі) па былым месцы работы і на кожнага члена сям'і, які перасяджае, — у памеры 1/4 дапамогі самога работніка, непрацуючым пенсіянерам — у памеры месячнай пенсіі;

б) аплату кошту праезду, расходаў па правозу маёмасці чыгуначным, водным і аўтамабільным транспартам (акрамя выпадкаў, калі адпаведныя транспартныя сродкі прадастаўляюцца бясплатна).

Аплата расходаў, звязаных з пераездам, праводзіцца раённымі, гарадскімі Саветамі народных дэпутатаў па былым месцы жыхарства;

6) забеспячэнне жылымі памяшканнямі ў спецыяльна ўзводзімых для гэтых мэт дамах;

7) першачарговае забеспячэнне жылой плошчай у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду;

8) пазачарговае набыццё ў прыватную ўласнасць жылых дамоў, незаселеных кватэр у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду, якія падлягаюць рэканструкцыі і капітальнаму рамонту, незалежна ад наяўнасці прапіскі ў выбраным для пражывання населеным пункце;

9) пазачарговае ўступленне ў жыллёвыя або жыллёва-будаўнічыя кааператывы па новым месцы жыхарства незалежна ад наяўнасці прапіскі ў выбраным для пражывання населеным пункце (акрамя горада Мінска і абласных цэнтраў);

10) пазачарговае прадастаўленне жылых памяшканняў грамадзянам з ліку непрацаздольных, якія перасяліліся (перасяляюцца) у адпаведнасці з гэтым Законам (па эвакуацыйных пасведчаннях) на жылую плошчу блізкіх сваякоў (бацькі, дзеці, унукі, родныя браты, сёстры) у якасці члена сям'і для сумеснага пражывання, калі ў выніку перасялення ўзнікае неабходнасць у паляпшэнні жыллёвых умоў у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам;

11) часовае размяшчэнне ў жылых памяшканнях да прадастаўлення ва ўстаноўленым парадку жылой плошчы або да завяршэння будаўніцтва індывідуальнага жылога дома;

12) пазачарговае прадастаўленне зямельных участкаў для будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў (акрамя горада Мінска і абласных цэнтраў) і набыццё будаўнічых матэрыялаў, заключэнне з падраднымі арганізацыямі дагавораў на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў з надворнымі пабудовамі;

13) атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва або набыццё індывідуальных жылых дамоў з надворнымі пабудовамі, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва з пагашэннем яе на працягу 25 гадоў, пачынаючы з трэцяга года пасля атрымання пазыкі, а таксама на будаўніцтва садовых домікаў і добраўпарадкаванне садовых участкаў з пагашэннем на працягу 10 гадоў. Кампенсацыя банкам страт ад прадастаўлення ўказанай пазыкі ажыццяўляецца за кошт сродкаў бюджэту;

14) атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на гаспадарчае абзавядзенне, набыццё матэрыялаў для будаўніцтва індывідуальных дамоў з пагашэннем 50 працэнтаў за кошт сродкаў бюджэту;

15) выкарыстанне штогадовага водпуску ў зручны для іх час, а таксама атрыманне дадатковага водпуску без захавання заработнай платы тэрмінам да двух тыдняў у год;

16) выплату пры пераводзе ў адпаведнасці з медыцынскім заключэннем на ніжэйаплачваемую работу розніцы паміж былым заработкам і заработкам на новай рабоце. Гэта розніца выплачваецца прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі да аднаўлення працаздольнасці або ўстанаўлення інваліднасці;

17) выплату дапамогі па часовай непрацаздольнасці ў памеры 100 працэнтаў заработнай платы незалежна ад бесперапыннага працоўнага стажу;

18) першачарговае абслугоўванне ў лячэбна-прафілактычных установах і аптэках;

19) першачарговае забеспячэнне пуцёўкамі для санаторна-курортнага лячэння і адпачынку;

20) часткова аплачваемы водпуск па догляду дзіцяці да дасягнення ім узросту трох гадоў;

21) пазачарговае забеспячэнне месцамі ў дзіцячых дашкольных установах незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці, спецыялізаваных дзіцячых установах лячэбнага і санаторнага тыпу, піянерскіх і іншых аздараўленчых лагерах;

22) пераважнае забеспячэнне месцамі ў пансіянатах ветэранаў або дамах-інтэрнатах для састарэлых і інвалідаў;

23) пазачарговае набыццё прадметаў дамашняй маёмасці, аналагічных тым, за якія выплачана кампенсацыя згодна з падпунктам «б» пункта 4 гэтага артыкула. Набыццё дамашняй маёмасці забяспечваецца са спецыяльнага фонду Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, створанага для гэтых мэт;

24) прыняцце на ўлік па новым месцы жыхарства на набыццё тавараў павышанага попыту з часу знаходжання на ўліку па былым месцы жыхарства;

